# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 44 (378) — Нядзеля, 3 лістапада 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# У ценю штучнага месяца

Ведамы амэрыканскі журналісты, вашынгтонскі карэспандэнт «Нью Ёрк Таймса» Рэстон нядаўна пісаў: «Заходні саюз перажывае крызыс, але Мікіта Хрушчоў мантуе яго нанава. Падыймаючы крык на тэму Турэччыны й Сырыі, высылаючы «спутніка» (пабеларуску «спадарожніка»), каб кружыў навакол зямлі, параўноўваючы канцлера Адэнаўэра зь Гітлерам, Хрушчоў вывяў народы Захаду з вускай сьцежкі нацыянальных клопатаў і запачаткаваў канечны ад даўняга часу працэс адбудовы атлянтычнае кааліцыі».

Што апошнія савецкія дасягненьні ў галіне навукова-тэхнічнай і падмацаваны імі новы нахабны наступ супраць вольнага сьвету прымусіў заходніх палітыкаў трохі апамятавацца і дзеля супольнае абароны цэмэнтаваць свае сілы, расьхістаныя лякальнымі розьніцамі собскіх інтарэсаў ды ўяўным пачуцьцём бясьпечнасьці, з гэтага астаецца толькі цешыцца. Але існуе і другі бок мэдалю, які ніяк ня можа настройваць аптымістычна і ў сяньняшні мамэнт бясспрэчна вялізарнага савецкага сукцэсу змушае нас глыбей задумацца над зусім невясёлай сытуацыяй.

Пэўне-ж, выпушчэньне штучнага спадарожніка зямлі, або ейнага сатэліта, ці, як яшчэ часамі яго называюць, «чырвонага месяца» сталася вялізарным козырам для савецкае прапаганды. І нічога дзіўнага, што Масква гэтую сваю часовую перавагу шырока выкарыстоўвае ў сябе дома і навонкі ды ўмела падмацоўвае ёй сваю палітычную экспансію супраць Захаду.

Але бяда яшчэ ня ў тым, што Саветам удалося ў галіне міжкантынэнтальнага ракетнага аружжа і фактам выпушчэньня штучнага месяца апярэдзіць Амэрыку, якая таксама інтэнсыўна працуе над гэтымі праблемамі. Гэтае савецкае апераджэньне хутчэй за ўсё было чыстым прыпадкам. Зусім праўдападобна, што Амэрыка толькі таму асталася ззаду, што ня прывязвала асабліва вялікага значэньня да тэрміну заканчэньня пабудовы свайго сатэліта, што магчыма клала больш націск на дакладнейшае выпрабаваньне й лепшае ўдасканаленьне свайго вынаходніцтва, або што магчыма ў дадзены мамэнт зьвяртала большую ўвагу на іншыя ня менш важныя вынаходніцтвы. Адпаведныя амэрыканскія дзейнікі маглі разважаць, што справа хутчэйшага або пазьнейшага выпушчэньня заплянаванага імі сатэліта зямлі ні ў чым сытуацыі асабліва ня зьменіць, а аб выпераджэньні іх Саветамі маглі навет і не падазраваць. Як ведама, у таталітарна-паліцыйнай сыстэме за зялезнай заслонай лягчэй і надзейней захоўваюцца сакрэты, чымся ў вольным сьвеце, дзе савецкая агентура нярэдка мае доступ навет да найвялікшых тайніцаў ваеннага значэньня.

Такім чынам факт пасьпяховага выпрабаваньня Саветамі міжкантынэнтальнай балістычнай ракеты і такога-ж пасьпяховага выпушчэньня першага штучнага спадарожніка зямлі зусім яшчэ не абазначае, што амэрыканская ваенная перавага над Саветамі гэтым самым захісталася. Тое, у чым Саветам удалося сяньня апярэдзіць Амэрыку, можа быць Амэрыкай надроблена з большым яшчэ посьпехам і ў зусім кароткім часе. І гэтага трэба моцна спадзявацца, калі ўзяць на ўвагу факт, што апошнія савецкія дасягненьні далі магутны штуршок для Амэрыкі, якая апошнім часам памножыла свае высілкі ў кірунку ракетнага вынаходніцтва і мае ўжо ў гэтай галіне вельмі паважныя вынікі.

Бяда, а навет цэлая трагэдыя ў чымсьці іншым. Навязваючы да вышэй прыведзеных словаў амэрыканскага журналістага, астаецца сьцьвердзіць, што Захад пачынае ўсьведамляць усю сілу савецкае небясьпекі й рэагаваць на яе толькі тады, калі гэтая небясьпека беспасярэдна й няўхільна загражае. Толькі ў такіх выпадках заходнія дзяржавы праяўляюць здольнасьць над сваімі лякальнымі інтарэсамі паставіць супольны інтарэс, належна скансалідавацца, скаардынаваць свае сілы й быць гатовымі да абароны. І наадварот, калі беспасярэдная загроза небясьпекі на некаторы час мінае, калі Саветы ад наступу пераходзяць да тактычнага адступленьня, тады Захад псыхалягічна раззбройваецца й астаецца няпрыгатаваным да абароны перад наступам новым, будучы змушаны здаваць свае некаторыя пазыцыі.

Мала таго, што такая чыста абаронная стратэгія Захаду заўсёды пакідае ініцыятыву ў руках Саветаў. Гэткая стратэгія няздольная трымаць у заўсёднай мабілізацыйнай гатоўнасьці заходнія народы, а Саветам дае патрэбную ім у той час перадышку. Гэтая стратэгія закрывае вочы заходнім народам на ўсю веліч небясьпекі, якую ім усьцяж прыгатаўляе камуністычны Ўсход. І ўсе камуністычныя здабыткі ў сьвеце пасьля заканчэньня апошняе вайны маглі быць дасягнутыя толькі дзякуючы гэтай няправільнай і шкоднай стратэгіі Захаду.

Прычына ўсяго гэтага зла выцякае з таго, што Захад мерае Савецкі Саюз сваёй собскай меркай. Ня гледзячы на горкія дасьветчаньні сваей дасюлешняй палітыкі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, ані дасьветчаньні зь гісторыі расейскага імпэрыялізму, успадкаемненага сяньня Саветамі, Захад ня хоча дагэтуль зразумець, што мэта Савецкага Саюзу зьяўляецца зусім іншая, чымся мэта заходніх дэмакратычных дзяржаваў.

Каб належна ацаніць савецкую палітыку й зразумець ейныя мэты, трэба заўсёды мець наўвеце два яе аснаўныя аспэкты. Папершае, гэтая палітыка выцякае з камуністычнае ідэі сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, зьнішчэньня гэтак званай капіталістычнай сыстэмы й запанаваньня камунізму ў цэлым сьвеце. З другога боку, ня меншую ролю іграе тут і спрадвечны расейскі імпэрыялізм, заўсёды экспансыўны й дынамічны ды розны ў сваей істоце ад заходніх імпэрыялізмаў у мінулым, калі яны зьяўляліся яшчэ актуальным фактарам палітыкі некаторых заходніх дзяржаваў. Расейскі імпэрыялізм маленькае й слабае калісьці маскоўскае княства на працягу стагодзьдзяў ператварыў у найвялікшую ў сьвеце расейскую, а сяньня савецкую імпэрыю. Заўсёды незаспакоеныя імпэрыялістычныя расейскія імкненьні былі на толькі магутным фактарам і самамэтай, што дзе толькі на працягу гісторыі станула нага расейскага заваёўніка, яна ніколі адтуль дабравольна не адступала, як толькі пад ціскам фізычнае сілы.

Ня мае ніякага практычнага значэньня, ці камунізм у сваей бесьперапыннай экспансіі выкарыстоўвае расейскі імпэрыялізм, ці, наадварот, расейскі імпэрыялізм паслугоўвасцца камуністычнай ідэяй дзеля пашырэньня межаў свайго аб'екту. Так ці інакш, абодвы гэтыя фактары — камунізм і расейскі імпэрыялізм твораць сяньня суцэльную сымбіёзу й вызначаюць галоўныя лініі савецкай палітыкі. Вось чаму гэтыя лініі зьяўляюцца заўсёды непарушнымі й неадменнымі, а калі й наглядаюцца часамі некаторыя ў іх зьмены, дык бываюць гэта толькі чыста тактычныя ходы й адступленьні, каб, змыліўшы праціўніка, потым перайсьці да больш балючага супраць яго ўдару.

Нельга сказаць, каб заходнія палітыкі не заўважылі ўсяго таго ў савецкай палітыцы, што ў ёй аж надта ёсьць відавочным. Бяда ў тым, што яны, узноў-жа дзякуючы сваей заходняй дэмакратычнай мэнтальнасьці, на адменную ад іхнай савецкую палітыку глядзяць пасвойму й мераюць яе собскай меркай.

На Захадзе вытварылася хвальшывае перакананьне, што ідэя сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, як адна із асноваў камуністычнае дактрыны, гэта адно толькі дэкляратыўны лёзунг, які ня мае ніякіх падставаў для практычнага ажыцьцяўленьня. На расейскі імпэрыялізм Захад сяньня глядзіць, як на зьявішча, якое ўжо аджыло свой век і перайшло да гісторыі, падобна як і імпэрыялізмы дзяржаваў эўрапэйскага Захаду. Тымчасам абодвы гэтыя зьявішчы — ідэя сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі й імпэрыялістычная ідэя расейскага захопніцтва зьяўляюцца актуальнымі рэальнасьцямі.

Неразуменьне гэтае праўды часамі прыводзіць да несамавітых у сваей наіўнасьці крокаў заходніх палітыкаў. Досыць было Хрушчову два гады таму назад на Жэнэўскай канфэрэнцыі вялікае

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

# Дружба двух братніх народаў

**АД РЭДАКЦЫІ:** Ніжэй зьмешчаны артыкул быў надрукаваны як рэдакцыйная перадавіца ў газэце «Українські Вісті» (№ 79 з 27 кастрычніка 1957 г.). Артыкул гэты зьвяртае на сябе ўвагу ня толькі правільнасьцяй вывадаў, але й таксама духам шчырасьці, прыязнасьці і запраўднай украінска-беларускай дружбы, дзеля чаго мы й палічылі за патрэбнае пазнаёміць зь ім нашых чытачоў.

*

Месяц верасень быў адзначаны падзеяй, якая аб'ектыўна мае вялікае значаньне для жыцьця нашага народу на Бацькаўшчыне: там адбыўся тыдзень беларускай літаратуры.

Гісторыя СССР — ня тая, што фігуруе ў афіцыйных партыйных падручніках, а запраўдная — несла й нясе ў сабе цэлы шэраг зьявішчаў, войстра парадаксальных. Штосьці, што сьведама ўзалежнівае сваё быцьцё ад маральнага ды практычнага рэлятывізму, ня можа адарвацца ад ягоных законаў тады, калі, адпаведна да каньюнктурнай патрэбы, жадае сама для сябе хоць на хвіліну чагосьці, калі ня «вечнага», дык бадай «сталага».

Адкрытыя, быццам аб'ектыўныя, «законы дыялектыкі», савецкая ўлада няздольная «закрыць», няздольная й тады, калі такога «закрыцьця» настойліва патрабуе.

Парадаксальным ёсьць тое, што савецкая ўлада, якая свайго часу падхапіла для выгляду высунуты рэвалюцыйным народам кліч свабоды (і толькі гэтым і перамагла), павінна на працягу ўсяго свайго йснаваньня толькі тое й рабіць, што здушваць свабоду. Парадаксальным, з другога боку, і тое, што, змушаная сваёй паталягічнай сутнасьцяй пэрманэнтна прыгнятаць, савецкая ўлада прымушана ад часу да часу й «папускаць», хаця й добра знае наперад, чым ёй такое «папусканьне» пагражае.

Ворагі нашай дзяржаўнасьці любяць ужываць супраць нас такое саркастычнае выражэньне: «Сталіна вы павінны шанаваць, як найбольшага ўкраінскага саборніка. Ён бо аб'яднаў усе вашы этнаграфічныя землі, якія перад тым былі вякамі разьдзеленыя між іншымі дзяржавамі.»

Так гавораць тут, на эміграцыі. Але з заменай гіроніі дэмагогіяй, гэтая формула даслоўна таксама гучыць і там, за зялезнай заслонай, прыкладам, вось у такім санкцыянаваным чырвонай Масквой лёзунгу да надыходзячых сьвяткаваньняў кастрычніцкай узурпацыі (цытуем за «Радянською Україною» з 17-га верасьня):

«Украінскі народ, стаўшы на савецкі шлях, апіраючыся на магутнасьці СССР, аб'яднаў усе свае землі ў адзінай Украінскай Савецкай Дзяржаве».

У нікога з дарослых і думаючых людзей ня можа паўстаць сумлеў да запраўдных намераў, якія мела на ўвазе бальшавіцкая кліка, далучаючы заходнія галіны ўкраінскага народу да таго масыву, які ўжо перад тым доўгагадова прабываў у штучным творы «УССР», створаным на руіне ўкраінскай народнай дзяржаўнасьці. Намеры былі тыя самыя, што й пры захопе вугорскіх ды румынскіх земляў, з той толькі розьніцай, што ў дадзеным выпадку апэраваць чыста прапагандова было лягчэй, таму што формула «адзінакроўнасьці» сама давалася ў рукі, як прыкладам, формула «славянафільства» пры захопе Польшчы й Чэхаславаччыны.

Але тут вось якраз уваходзіў у дзею й супрацьлежны бок «дыялектычнага» працэсу. Народ такі об'ядноўваўся. Звонку ён аб'ядноўваўся пад кнутам, пад хлусьлівым прапагандовым лёзунгам, аб'ядноўваўся для супольнай долі, — але нутрана ён аб'ядноўваўся паводля ўсіх законаў кроўнасьці, а ня ўрочнага зрадненьня.

Да гэтага самага роду зьявішчаў належыць і тое, якому мы ў гэтым артыкуле прысьвячаем увагу: узаемадачыненьням нашага народу з хіба найбольш блізкім нам і духова, і тэрытарыяльна, і шмат у чым супольнай гістарычнай доляй, і будучымі пэрспэктывамі.

Зь Беларусамі мы станавілі складовыя часткі вялікай літоўскай дзяржавы, час існаваньня якое зьбегся з адным з найбольш выдатных культурных адраджэньняў нашага мінулага. Сужыцьцё й супрацоўніцтва двох народаў, так на іх нізох, як і на найвышэйшых інтэлігенцкіх ступенях былі так цеснымі, што цэлы шэраг выдатных асабістасьцяў у галіне культуры, палітыкі й рэлігіі належыць адначасова да гісторыі абодвых народаў.

Гэтая еднасьць двох народаў, якія ў часох сталага паняволеньня з боку суседніх дзяржаўных арганізмаў павольна, аднак няўхільна ператвараліся на мадэрныя нацыі зь яскрава выяўленымі жаданьнямі да незалежнага дзяржаўнага йснаваньня, — трывала, трывае й будзе трываць зь неаслабнай сілай. Хоча таго ці ня хоча ўрадава-партыйная «Радянська Україна», але яна піша праўду, калі абвяшчае сваім чытачом:

«Шэўчэнкаў „Кабзар" — улюбленая кніга Беларусаў. Перакладзеныя на беларускую мову творы П. Тычыны, М. Бажана, М. Рыльскага чытаюць тысячы працоўных...

І таксама на Ўкраіне. Паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пятруся Броўкі, Пятруся Глебкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, раманы, повесьці, апавяданьні Кузьмы Чорнага, Зьмітрака Бядулі, Міхася Лынькова, Эдуарда Самуйлёнка, Піліпа Пестрака, Янкі Брыля, Івана Шамякіна, п'есы Кандрата Крапівы занялі пачэснае месца на полках нашых бібліятэк і шырока вядомыя чытачом Украіны...»

Самазразумела, у афіцыйнай вэрсіі гэтае яд'наньне й дружба маглі, быццам, зьдзейсьніцца толькі на ўлоньні «вялікага кастрычніка», і паэта Пятрусь Броўка змушаны вершаваць, а ўкраінскі паэт П. Сліпчук — перакладаць:

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Камунікат з размоваў Айзэнгаўэра з Макмілянам у Вашынгтоне можна было-б вітаць, як пазытыўную падзею. Бо што-ж больш патрэбнае ў вабліччы сьмяротнай загрозы бальшавізму, як ня цеснае й шчырае супрацоўніцтва антыкамуністычных дзяржаваў? Аднак ці гэта, што гаворыцца ў вашынгтонскім камунікаце, будзе запраўды дакладна выконвацца? Да гэтага часу практыка паказвала, што, ня гледзячы на прыгожыя асьветчаньні, Амэрыка й Ангельшчына пры першай нагодзе падстаўлялі адна другой нагу. Цікавая рэч: амэрыканскія палітыкі хацелі-б верыць маскоўскім сатрапам, але ня вераць Ангельцам, із свайго боку гэтыя апошнія адплачваюцца ім падобным.

Ці-ж гэты бальшавіцкі мячык, які лётае ў космасе й пішчыць (дарэчы, апошнімі днямі спыніў піскі) — змусіў заходніх палітыкаў зьмяніць тактыку? Калі так, дык толькі трэба было-б радасна вітаць і «спутніка» й вынік ягонага зьяўленьня... Хіба-ж у канцы на Захадзе зразумеюць, што не пара на канкурэнцыю за нафту, вугаль, каўчук ці іншыя багацьці, але трэба паважна падумаць аб захаваньні свайго йснаваньня, бо маскоўскі мядзьведзь, як выліняе ў сваёй бярлозе, без найменшых скрупулаў паламае косьці сэнтымэнтальных джэнтэльмэнаў. Цяпер ён толькі грозна мармоча, але некалі люта зараве.

Дарэчы — актуальны анэкдот: Айзэнгаўэр, Макмілян і Хрушчоў зьехаліся ў раі гуляць у покэра. Прыказкавага «чацьвертага да брыджа» не знайшлося, бо Францыя, як заўсёды, праходзіла хранічны крызыс. Гасьцінныя анёлы, вітаючы трох ігракоў, сказалі, што пастараюцца выканаць кажнае іхнае пажаданьне. Хрушчоў на куску паперы напісаў: «Безадкладна сьцерці Амэрыку з паверхні зямлі!» У Айзэнгаўэравай пісульцы стаяла: «Адсунуць камуністых ад улады ў расейскай імпэрыі». А Мекмілян меў вельмі сьціплае жаданьне: „Cup of tea with milk, please".

Анэкдот, але актуальны і з мараляй...

*

Як правіла, калі ў Маскве паўстаюць нутраныя цяжкасьці, абструкцыі й патрэбы прачышчэньня, яна інсьпіруе розныя міжнародныя авантуры й напружаньні, каб адвярнуць ад сябе ўвагу. Заходнія дыпляматы бегаюць, мітусяцца, а бальшавіцкія бонзы цішком прачышчаюцца. Гэтакія экспэрымэнты маглі-б быць небясьпечнымі для маскоўскіх бонзаў, каб Захад выкарыстоўваў іхныя слабыя мамэнты. Але — гэта-ж утопія.

Вось-жа цяпер, пачаўшы сьмехатворную сырыйскую авантуру, Масква мела розныя мэты, але ці, бадай, не найважнейшай — стварыць дымавую заслону, за якой праводзілася цяжкая апэрацыя — вычышчэньне Жукава.

А апэрацыя была запраўды цяжкая й складаная. Трэба было Жукава выслаць на два тыдні ў Югаславію, а як не хапіла двух тыдняў — неспадзявана загадаць яму ехаць банкетаваць у Альбанію. Грамыка ў Нью Ёрку рабіў арабскія авантуры, а ў Маскве пад сырыйскі шумок, за плячыма Жукава чысьцілі Жукава. Калі гэты маршал, праспаўшыся пасьля альбанскіх банкетаў, прыляцеў у Маскву, ён даведаўся, што безь яго яго вычысьцілі й прачысьцілі.

Бачна, што апэрацыя з Жукавам была нялёгкая, бо хоць ужо прайшло некалькі дзён ад першага паведамленьня аб ягонай дымісіі із становішча міністра абароны, усё яшчэ няма афіцыяльнага камунікату ў сувязі з чым гэта сталася. У скупых вестках, якія даходзяць з Масквы, ведама, што Прэзыдыюм ЦК засядае днём і ноччу. Нялёгка сьпіхціць сос, у якім падасца афіцыяльны камунікат. Палажэньне ўскладняецца тым, што амаль першы раз у гісторыі Савецкага Саюзу вычышчаецца чалавек запраўды папулярны ў народзе. Заслужана ці не, але Жукаў меў гэтую папулярнасьць. Зрабілі яму яе ваенныя заслугі, пасьляваенная няласка ў Сталіна, а найбольш тое, што ён не абцяжараны балястам удзелу ў праступствах маскоўскіх верхаводаў, сталінскіх вучняў і халуёў. Хаця ў Жукава ня выяўлялася амбіцыяў Банапарта, ягоная папулярнасьць перашкаджала спакойна спаць крамлёўскім бонзам. Назначэньне маршала Маліноўскага, тупога партыйца, на становішча міністра абароны даказвае, што Хрушчоў баіцца моцных індывідуальнасьцяў.

У дадзены мамэнт яшчэ няведамы далейшы лёс Жукава, але адно пэўнае: заўзятае змаганьне пры крамлёўскім карыце трывае й бальшавіцкія верхаводы далей аплявушацца аж трэскі ляцяць.

# Гаўляйтаравы лятуценьні

Выпадкі ў Польшчы й зьмены, якія адбыліся пасьля Пазнані, так неспадзявана заскочылі палітычныя польскія эміграцыйныя дзейнікі, што даўжэйшы час не маглі яны ачухацца й толькі шмат пасьлей пачалі рабіць на гэтую тэму розныя заявы. Асабліва ў прыкрым палажэньні знайшлася г. зв. Рада Рэчыпаспалітае Польшчы з Урадам Прэзыдэнта Залескага. Гэтае польскае палітычнае прадстаўніцтва ня толькі няведамае ў Польшчы, але ня мае падтрыманьня й сярод Палякоў на эміграцыі. Прэм'ер Паёнк робіць усякія намаганьні, каб зьвярнуць на сябе ўвагу ды паказаць сябе вялікім патрыётам і працягвальнікам польскае імпэрыялістычнае палітыкі. З гэтай мэтай у склад цяперашняга ўраду Р. П. Паёнк паклікаў Ксавэрага Глінку на міністра «Усходніх земляў адарваных ад Рэчыпаспалітае й бясправўна далучаных да Савецкага Саюзу». Панашаму гэта значыць, што міністар Ксавэры Глінка выходзіць кандыдатам на гаўляйтара для беларускіх і ўкраінскіх земляў. Міністар К. Глінка выступіў на паседжаньні Рады Р. П. 29 чырвеня сёлета ў Лёндане з даўжэйшай прамовай, у якой выказаў свой і свайго ўраду пагляд на даручанае яму міністэрства. На ўступе свае прамовы Глінка заявіў, што ён хоча спрэцызаваць і прыпомніць пэўныя факты, якія найляпей пакажуць справу «Ўсходніх земляў» ды іхную вагу для будучыні польскага народу й дзяржавы.

Для нас, Беларусаў, таксама маюць пэўную цікавасьць факты што да земляў Заходняе Беларусі, на якія выцягвае руку міністар Глінка.

### Хвальшаваньне статыстыкі

Спачатку Глінка падае некаторыя лікавыя дадзеныя што да тэрыторыі й жыхарства. «Заанэктаваныя Саветамі ў гадох 1939—40 Усходнія Землі мелі плошчу 192,679 кв. км., або 51,6% цэлае тэрыторыі польскае дзяржавы, на якой пражывала агулам 13,000 асобаў, або 38% агульнага ліку жыхарства Польшчы».

Лік жыхарства гэтых земляў на 1 верасьня 1939 г., паводля нацыянальнага складу згодна Глінкі, прадстаўляўся наступна: Палякі — 5,529,000, Украінцы — 4,529,000, Беларусы — 1,123,000, Жыды — 1,172,000.

Адкуль узяў такую дзіўную статыстыку мін. Глінка для Беларусаў Заходняе Беларусі, дык гэта хіба яму аднаму толькі ведама, бо лікі попісаў 1897, 1921 і 1931 гадоў паказваюць іншае. Нам, Беларусам, вельмі добра ведамыя факты, што пры перапісе 9 сьнежня 1931 году рубрыка «родная мова» мела азначаць нацыянальную прыналежнасьць ды што гэтую рубрыку, на загад польскіх паветавых старастаў, папісьнікі Палякі нясумленна хвальшавалі, запісваючы родную мову польскую навет Беларусам праваслаўным, якіх родная мова ад дзеда прадзеда была беларуская, якой карыстаюцца яны й па сяньняшні дзень. Аднак, памінаючы такі хвальш, запісаных Беларусамі на тэрыторыі Заходняе Беларусі было куды болей за афіцыйнае падаваньне польскімі ўрадавымі коламі. Мы, Беларусы, сьветкі ўспомненага попісу 1931 году маглі-б падаць шмат фактаў аб гэтым хвальшаваным попісе.

На незапраўднасьць польскіх статыстычных дадзеных узялі ўвагу дасьледнікі, якія займаліся вывучэньнем нацыянальных мяншыняў б. польскае дзяржавы.

М. І. Папроцкі падчыркнуў, што ў польскіх попісах 1921 і 1931 г. «няўрэдкую заміж нацыянальнасьці пададзенае веравызнаньне, або як «родная мова» — «тутэйшая», гэта значыцца мясцовы дыялект. Таму нельга дзівіцца, што ўрадавыя статыстыкі ня могуць паказваць на дакладны лік Беларусаў у Польшчы». (St. Paprocki, Polska i sprawa mniejszościowa. Warszawa, 1935). Ст. Морнік даходзіць да выніку, што ў 1928 г. Беларусаў у Зах. Беларусі было 2,137,000 (Stanislaus Mornik, Polens Kampf gegen seine nichtpolnischen Volksgruppen. Berlin und Leipzig, 1931, 18—19).

Крытычна паставіліся да польскае статыстыкі й іншыя дасьледнікі, як Dudley Kirk, W. Parker Mauldin, Donald S. Akers.

У Статыстычным Бюро Задзіночаных Штатаў, улучаючы ўсіх Беларусаў праваслаўных, налічваюць 2,002,000 у Зах. Беларусі б. польскае дзяржавы. Зразумела, тут зробленая памылка ў дачыненьні да Беларусаў каталікоў.

Мікола Волаціч падае наступную табліцу жыхарства Зах. Беларусі на 1931 год:

| | | |
|---|---|---|
| Беларусаў | 3,460,000 | 78,0% |
| Жыдоў | 450,000 | 10,1% |
| Палякоў | 260,000 | 5,9% |
| Расейцаў | 101,400 | 2,3% |
| Іншых | 165,900 | 3,7% |

(«Беларускі Зборнік Інстытуту для Вывучэньня СССР, № 4, Мюнхэн 1956 г., б. 13.).

Бяручы на ўвагу вышэйпададзеныя лікі, можна сьцьвердзіць тэндэнцыйную й неадпаведную запраўднасьці статыстыку. пададзеную мін. Глінкам у ягонай прамове што да колькасьці Палякоў.

### Рыская мяжа

Далей Глінка кажа гэтак: «Паваленьне Ялты й зварот польскай дзяржаве мяжы Рыскага трактату на Ўсходзе засталося прызнаным усімі Палякамі, як галоўны кліч палітычнае эміграцыі.., ад якога ніводзін Паляк ня мае права адступацца».

Рыскі трактат становіць сабою ганебную балону гісторыі. Палякі з расейскімі камуністымі падзяліліся землямі Беларусі ды Ўкраіны, ужыўшы збройную сілу. Імкненьні беларускага народу й абвешчаньне Беларускае Народнае Рэспублікі 25 Сакавіка 1918 г. ня былі пашанаваныя агрэсыўна-імпэрыялістычнымі суседзямі. Землі абяззброенага й падбітага суседа былі падзеленыя, а з гаспадара, беларускага народу, зрабілі парабка, якога бязьлітасна, зьняважліва й праставольна выкарыстоўвалі.

Урад Беларускае Народнае Рэспублікі на выгнаньні вельмі часта зварачаўся да Лігі Нацыяў, паказваючы сьвету на той зьдзек, які тварылі расейскія камуністыя й Палякі над беларускім народам. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ў сваей дэклярацыі выказала, што яна: «Не прызнае й ніколі ня прызнае на будучыню, як неабавязваючыя беларускі народ, усе ўмовы й забавязаньні, якія няпраўна ад імя беларускага народу падпісалі ўрады СССР і Польшчы». Неразумная палітыка да Беларусаў пад польскай акупацыяй пасьля рыскае ўмовы да 1939 г. пакінула па сабе глыбокія раны жалю й крыўды да акупантаў.

Дваццацігодная акупацыя не дае праўнае асновы на собскасьць і прэтэньсіі польскіх эміграцыйных палітыкаў да земляў Зах. Беларусі.

### Лінія Кэрзона й Ялта

Міністар Глінка заклікае ў сваёй прамове Палякоў да пратэставаньня, пры ўсякай нагодзе, супраць Ялты, «якая становіць усанкцыяваньне заходнімі валадарствамі забраньня земляў зь Вільняй ды Львовам на чале».

Як ведама, «лінія Кэрзона» была ўстаноўленая ў 1919 г. міністрам замежных справаў Вяліка-Брытаніі лёрдам Кэрзонам на мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы. Гэтая лінія дыскутавалася й пры перамовах у Ялце ў 1945 г. Лінія Кэрзона гэта чыста палітычны твор, а ня выяў волі беларускага народу, і не адказвае ягонай этнічнай прасторы. Довадам гэтага — беларуская тэрыторыя Беласточчыны, якая, згодна, Ялтаўскае ўмовы, перайшла пад адміністрацыю цяперашняй Польшчы. Беластоцкае ваяводства налічвае 771,000 жыхароў, з гэтага Беларусаў больш за 500,000.

На дамаганьні беларускага жыхарства адчынена каля сотні пачатных і 3 сярэднія школы. Выдаецца тыднёвая беларуская газэта «Ніва». Хіба-ж не для Палякаў адчынілі беларускія школы ды выдаюць газэту. Да 1939 г. у Зах. Беларусі польская адміністрацыя пазачыняла ўсе беларускія школы, а пісьмовыя дамаганьні беларускага жыхарства на родную школу польскія ўлады пакідалі без адказу. Праводзілася дзікая паланізацыя Зах. Беларусі, каб мець фікцыйную аснову ўважаць гэтыя землі за польскія. Але тыя, хто цікавіцца праблемамі Сярэдняе й Ўсходняе Эўропы, ведаюць пра фактычны стан. І зусім зразумела, што ангельскія, амэрыканскія й францускія дыпляматы ведалі, што Заходняя Беларусь гэта ня польскія землі, калі ўстанавілі для Палякаў лінію Кэрзона.

Пры перамовах у Ялце ў 1945 г. польскі ўрад ня мог даць ніякіх довадаў, што землі Заходняе Беларусі, якія былі пад адміністрацыяй Польшчы паводля рыскага трактату, гэта карэнныя польскія землі. Амэрыканскія й ангельскія дыпляматы, ведаючы фактычны стан рэчаў, ня мелі асноваў бараніць польскіх прэтэнсіяў што да ўсходняе мяжы. Можна ўводзіць у блуд польскага чытача, зьмяшчаючы ў сваёй эміграцыйнай прэсе дамаганьні межаў паводля рыскага трактату, але нельга пераканаць бяз довадаў палітыкаў і дыпляматаў.

Выступы польскіх эміграцыйных палітыкаў з выцягваньнем рукі на беларускія землі ня спрычыняцца да наладжаньня добрасуседзкіх дачыненьняў паміж Беларусамі й Палякамі. Яны ня хочуць быць суседзямі Беларусаў і Украінцаў, а толькі ўзіраюцца на Маскву ды лятуцяць аб рыскім трактаце.

Бяручы на ўвагу саракагадовае нацыянальна-вызвольнае змаганьне беларускага народу за незалежную беларускую дзяржаву, мы можам station становўка цьвердзіць, што ў будучыні нам гаўляйтары не спатрэбяцца, бо сам беларускі народ будзе гаспадаром на сваёй адвечнай зямлі, на ўсёй сваёй этнічнай прасторы.

**Вацлаў Ліпінскі**

# Дружба двух братніх народаў

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

...Випростав плечі народ-трудівник.
З днів тих для нас починається дата,
Величчю славна і змістом багата, —
Правди людської — сімнадцятий рік...

Але тут ізноў такі парадокс, у дадзеным выпадку — парадокс даты. Сямнаццаты год — гэта год вялікіх вясьняных рэвалюцыяў, у якіх народ запраўды на поўны размах разгарнуў свае крыльлі й ськінуў вяковую няволю. І кажны працоўны нашых народаў, кажны сябра дзьвёх нашых братніх нацыяў у глыбіні душы свае знае, што кажацца ў такіх і падобных словах пра пачатак «даты», а не пра крывавае здушэньне яе.

Беларускія пісьменьнікі бралі ўдзел у афіцыйных сустрэчах і мітынгах. Яны павінны былі вымаўляць шэраг словаў, што належаць да сучаснага разьдзелу бальшавіцкага талмуду. Згодна зь сягоняшняй формай, гаварылася пра асобаў «не далей Леніна» й пра бязіменную, абстрактную партыю.

І зноў меў месца парадокс. Ціскам абставінаў вымушаны пэрыяд «змаганьня з культам асобы» прадстаўнікі абодвых народаў выкарысталі ўва ўсёй поўні. Беларускія пісьменьнікі сфатаграфаваліся ў афіцыйных позах разам з Сясюрай і Тычынай. Але падкладка іхных дружных усьмешак пры гэтым далёка неафіцыйная. Пісьменьнікі братняга народу за гэты тыдзень скантакталіся з найшырэйшымі коламі нашага жыхарства, пабывалі ў найдалей высуненых на захад мясцовасьцях, наведалі гістарычныя месцы, склалі пашану найбольшай сьвятыні ўкраінскага народу — магіле Шэўчэнку над Дняпром.

А такія рэчы не праходзяць марна. Афіцыйная шкарлупа гэтых сустрэчаў прысуджана на адсыханьне. Сардэчнае-ж яднаньне расьце й мацнее.

І ў гэтай моцнай акцыі — адведзінаў Беларусамі Украіны й адведзінаў Украінцамі Беларусі (што адбыліся перад гэтым) — упадаў у вочы яшчэ адзін парадокс, якога таксама пад ціскам абставінаў, не магла ўнікнуць сыстэма. На працягу цэлага тыдня гаварылася толькі пра яд'наньне **двох** братніх народаў. Адно толькі ў перадавым артыкуле «Радянської України» з 24-га верасьня, якая падводзіла афіцыйныя пдсумаваньні тыдня беларускай літаратуры на Ўкраіне, дапушчана было некалькі нявыразна вымаўленых выражэньняў, як, прыкладам: «Даўняя дружба зьвязвае беларускую культуру з культурай расейскага й украінскага народаў».

Няма сумлеву, што адсуненьне «старэйшага брата» на задні плян адбылося паводля простае інструкцыі зьверху. Так наказвае «дыялектычная» хвіліна. Аднак, «дыялектыка» такі мацнейшая за тых, хто зрабіў яе бажышчам свайго жыцьця. Паміма ўсялякай залежнасьці ад таго, што раз гаворыцца аб «вялікім расейскім народзе», а раз аб «улюбленай партыі», усё тое, што прыроднаму сужыцьцю нашых двох народаў нехарактэрнае, раней або пазьней адляціць, ападзе й рассыплецца на порах. Застанецца тое, што вечнае: сэрцы братніх народаў якія б'юцца ў адзіным братэрскім рытме.

І таму калі сяньня тая-ж самая «Радянська Україна» паведамляе пра сьветавы рэкорд беларускага (не «савецкага»!) спартсмэна Анатоля Дзіядорава на дакладнасьць прызямленьня пры скоку з парашутам, — міліёны чытачоў на нашых родных землях радуюцца ня ўроеным «посьпехам партыі», а такі ўдачай братняга народу, які, наўсуперак усім перашкодам, расьце мацнее й разгортвае сілы на поўную шырыню.

# У ценю штучнага месяца

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

чацьвёркі зрабіць прыязную міну й не пашкадаваць слоўных абяцанак, каб прэзыдэнт Айзэнгаўэр, вярнуўшыся ў Вашынгтон, мог заявіць з добрай верай, што цяпер наступіла «новая эра» ў дачыненьнях з Саветамі. Таксама нельга было ня верыць у шчырасьць упаўнамочанага прэзыдэнта Айзэнгаўэра на сёлетнюю канфэрэнцыю падкамісіі для раззбраеньня ў Лёндане Гарольда Стасэна, які ўсьцяж складаў асьветчаньні аб рэальнай магчымасьці дасягненьня з Саветамі паразуменьня ў справе раззбраеньняў. У гэтай сваей веры Стасэн выпусьціў з пад увагі адну акалічнасьць, што Саветы маглі пайсьці толькі на такое пагадненьне аб раззбраеньні, якое зьменшыла-б збройную вагу Захаду на карысьць Саветаў. Ніякае-ж іншае раззбраеньне Саветам не патрэбнае, бо яно не вяло-б да іхнае канчальнае мэты.

Калі аднак Захад ня выцягнуў для сябе патрэбнай навукі з усіх дасюлешніх ходаў савецкай палітыкі, дык найвялікшы, а можа навет і апошні час зрабіць гэта цяперака. Найсьвяжэйшыя дасягненьні савецкай мадэрнай ваеннай тэхнікі й выпушчэньне штучнага спадарожніка зямлі, як ужо гаварылася, самі па сабе яшчэ не прадстаўляюць беспасярэднай загрозы для вольнага сьвету. Але вельмі хутка гэтай загрозай могуць яны стацца, калі Захад ня зрэвідуе грунтоўна сваей палітыкі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу і ня будзе яго разглядаць як свайго пэрманэнтнага, бязьлітаснага й бескампраміснага ворага, зь якім ніякае суіснаваньне немагчымае.

**Язэп Каранеўскі**

# Творы Максіма Багдановіча 8)

* * *

Падыймі у гару сваё вока,
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцьця.

Ціха хмару блакіт закалыша,
У душы адрасьце пара крыл, —
Узьляціць яна ў сінюю вышу
І ў бруёх яе змые свой пыл.

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

1912

* * *

De la musique avant toute chose.
P. Verlaine

Панад белым рухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых, —
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзьве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песьня, —
Ціхі, ясны гімн вясьне.
Ці ня сэрца напявае,
Навявае яго мне?

Ці ня вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць?

Не згадаць таго ніколі,
Не разьведаць, не спазнаць:
Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, зьвіняць.

Песьня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны сьвет.
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт.

1910

### РАМАНС

Quand luira cette étoile, unjour,
La plus belle et la plus lointaine,
Dites-lui qu'elle uet mon amour,
O derniers de la race humaine.
Sully Prudhomme

Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю,
Сьветлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Вэнэра ўзыйшла.
З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зоркі шукаў
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але растацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але растацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кажную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.
Глянь іншы час на яе, — у расстаньні
Там зь ёй зьліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскросла каханьне,
Глянь іншы раз на яе...

1912

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

### ДОСІ ЎЖО ПРАЦЫ

Гэй, варушэцеся, коні панурыя,
Досі ўжо працы, бо сонца зайшло!
Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Боразны ў небе яно правяло.
Хутка ўжо зоркі зірнуць сіняватыя,
Месяц пакрые палі палатном...
Досі ўжо! з вамі вярнуся да хаты я
І пазабудуся сном.

1910

## Згукі бацькаўшчыны

**(1911 — 1912)**

* * *

Уся ў сьлязах, дзяўчына
Хіліцца да тына.

# Зрабаваная слава

У 1960 годзе адзначыцца 550-годзьдзе з дня Грунвальдзкай бітвы, якая перакрыжавала плянавы паход на ўсход нямецкіх крыжакоў. Трэба думаць, што гэтая гадавіна будзе ўшанавана належна ў Польшчы, Летуве й Расеі. Сумніўнае пытаньне, ці яна будзе незалежна адзначана ў Беларусі. Усё залежыць ад становішча «старэйшага» брата — ад Масквы.

Грунвальдзкая бітва адбылася 15 ліпеня ў 1410 годзе на тэрыторыі Прусіі блізу пасяленьняў Грунвальд і Таннэнбэрг. У бітве прынялі ўдзел злучаная польска-літоўская армія пад кіраўніцтвам польскага караля Ягайлы й вялікага князя літоўскага Вітаўта і армія прускага й лівонскага крыжацкіх Ордэнаў пад кіраўніцтвам вялікага магістра Ўльрыха фон Юнгінгена. У сваю чаргу польскае войска складалася з Палякоў, Украінцаў і наёмных чэхаславэнскіх аддзелаў начале з Янам Жыжкам; літоўскае — зь Беларусаў, Летувісаў, Украінцаў пры ўдзеле лёгкіх татарскіх конных аддзелаў; нямецкую армію складалі рыцары дабраахвотнікі з усяе Заходняе Эўропы пры перавазе рыцараў Немцаў. Нямецкая армія пераважала злучаныя польска-літоўскія сілы дысцыплінай, вышкаленьнем вояў-прафэсіяналаў і ўзбраеньнем, тады, калі злучаная польска-літоўская армія мела перавагу сваёй колькасьцяй.

На полі бітвы войска Вялікага Княства Літоўскага займала правае крыло, злучаючыся з польскім пасярэдніцтвам трох смаленскіх палкоў начале з мсьціслаўскім князем Юрым Лінгвенавічам. Наступ пачалі Немцы на ўсім фронце. Пасьля гадзіннае моцнае сутычкі яны перанясьлі галоўны націск на правае крыло, змушаючы войска Вітаўта падацца назад. На левым крыле войска Ягайлы таксама пачало адступленьне. Гэтую першую няўдачу літоўскія летапісцы прыпісвалі ненаважанасьці ў дзеяньні Ягайлы. Становішча аднак паправілі тры смаленскія палкі, якія не падаліся паніцы і ў стойкай абароне ўтрымалі цэнтр фронту. Незадоўга Вітаўт і Ягайла рэарганізавалі шэрагі сваіх палкоў і перайшлі ў наступ. Крыжацкая армія ня вытрымала гэтага ўдару й кінулася на ўцёкі, пакідаючы на полі бітвы тысячы забітымі, свае баявыя сьцягі й зброю. Загінуў таксама й вялікі магістар із шматлікімі іншымі вышэйшымі ваеводамі.

Бітва была выйграная такім чынам дзякуючы харобрасьці вояў смаленскіх палкоў. Аднак гэтую славу Беларусаў зрабавалі самым ганебным спосабам.

Зрабавалі яе нашыя суседзі ня толькі шляхам перахрышчэньня смальнянаў у Расейцаў, але й наагул выкасаваньнем Беларусаў з падзеяў гісторыі, із слаўнае гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, лічачы іх нацыянальна паняволеным народам, які, паводля цьверджаньняў польскага гісторыка В. Вельгорскага, на правох заваёванага «зганяўся на тэрыторыю Жмудзі й Вышэйшай Летувы (Аўкштоты), дзе быў змушаны ў потнай працы будаваць умацаваньні, служыць у гарадзкіх гарнізонах і праліваць кроў за чужую справу на чужой зямлі» («Польшча і Літва», Лёндан, 1947, б. 93). Падобнае сьцьверджаньне трэба-б было запісаць на карту тых дзясяткаў тысяч Палякаў, якія ў часы Міндоўга й Гэдыміна на правох нявольнікаў пабудавалі нямала вежаў гарадзкіх умацаваньняў на землях Вялікага Княства Літоўскага, і частку якіх Гедымін залічыў у пасаг сваёй дачцы, аддаючы яе замуж за польскага каралевіча Казімера.

На беспадстаўнасьць падобных цьверджаньняў мы ўжо ня раз зварочвалі ўвагу, і гэтым разам абмяжуемся толькі некаторым насьвятленьнем палітычнага становішча Беларусі й Беларусаў у сыстэме Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні Грунвальдзкай бітвы.

Неяк зләжылася так, што ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага цэнтрам ўвагі заўсёды былі беларускія землі. Гэта бясспрэчны факт, хоць гісторыкі на яго зьвяртаюць мала ўвагі. Вялікае Княства Літоўскае заснавалася на землях Наваградчыны, і ў далейшым разьвівалася на беларускіх землях, маючы беларускі народ галоўным дзейнікам у збудаваньні сваіх асноваў. Зь перанясеньнем сталіцы ў Вільню, таксама на тэрыторыю, заселеную Беларусамі, бо яшчэ й дасюль археалёгамі там ня знойдзена сьлядоў чыстай культуры летувіскага народу з X—XIII стагодзьдзяў, цэнтр галоўнае ўвагі нічуць не зьмяніўся. Гэта можна прасьлядзіць хоць-бы па распадзелу ўнутранае вялікакняскае ўлады на тэрыторыю ВКЛ, пакінуўшы збоку геапалітычнае пытаньне. Пры Гэдыміну праводзілася цэнтралізацыя гаспадарства, і таму ягоная вярхоўная ўлада распаўсюджвалася больш-менш аднолькава на ўсе землі. Пры распадзеле гэтае ўлады між сваімі сынамі, свайму наступніку Яўнуту ён пакінуў Вільню зь яе ўсходнімі ваколіцамі й Меншчыну. Кейстут атрымаў Жмудзь з Гарадзенска-Берасьцейскімі землямі. Калі наступіла ўзурпацыя вялікакняскае ўлады Альгердам з дапамогай Кейстута, Альгерд таксама пакінуў за сабой апрача земляў Віленшчыны землі Віцебшчыны й Полаччыны, распаўсюджваючы сваю моцную вярхоўную ўладу на ўсе іншыя беларускія землі й робячы зь Кейстута ледзь не незалежнага князя Жмудзі й беларускіх земляў на ўзьмежжы з Польшчай.

Гэтае становішча трывала пры перадачы Альгердам вялікакняскае ўлады свайму сыну Ягайлу. Калі разгарэлася нутраная вайна за вялікакняскую ўладу спачатку між Ягайлам і полацкім князем Андрэем, потым між Ягайлам і жмудзкім князем Кейстутам, а па забойстве апошняга, між Ягайлам і князем Вітаўтам, змаганьне ішло за беларускія землі, у той час, калі Жмудзь сталася аб'ектам палітычнага гандлю зь нямецкімі крыжакамі. Пайменна, у 1383 годзе Вітаўт зрокся Жмудзі й перадаў яе крыжаком, атрымаўшы ад апошніх вайсковую падтрымку супраць Ягайлы. Акцыя Вітаўта была апрабаваная таксама полацкім князем Андрэем.

Пасьля заключэньня Ягайлам уніі з Польшчай у 1385 годзе і, такім чынам, ягоных спробаў ліквідаваць незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага, гэта ў першую чаргу беларускія землі, якія выступілі ў вабароне незалежнасьці свайго гаспадарства. Супраць палітыкі Ягайлы выступілі з адкрытай вайной у лютым 1386 году Полаччына начале з сваім князем Андрэем і Смаленшчына з князем Сьвятаславам. Праўда, гэтая вайна кончылася перамогай Ягайлы, але яна паказала народнае незадаваленьне і запачаткавала змаганьне супраць польскіх пасяганьняў, якое ў далейшым ачольваў князь Вітаўт.

Князя Вітаўта можна абвінавачваць за ягоную праягайлаўскую нутраную палітыку, накіраваную на прывілеяваньне каталікоў. Аднак у вонкавай палітыцы ён у меру магчымасьцяў заўсёды імкнуўся да поўнага ўнезалежненьня ВКЛ, кіруючыся пры гэтым выключна інтарэсамі цэласьці беларускага народу. Ачольваючы агульны рух супраць ягайлаўскае палітыкі, ён дабіваецца ў пачатку 90-х гадоў XIV стагодзьдзя свайго назначэньня на становішча кіраўніка ВКЛ, парываючы ў 1398 годзе наагул усялякую сувязь з Польшчай, калі адхіліў захады польскае кароны атрымаць падаткі з ВКЛ. Ён робіць з крыжацкім Ордэнам умову аб узаемнай дапамозе, зноў зракаючыся пры гэтым Жмудзі, і абвяшчаецца арыстакратыяй ВКЛ літоўскім каралём. Распрацаваныя ім пляны вонкавай экспансіі ВКЛ прадбачвалі пашырэньне ўладаньняў апошняга на стэпы паўднёвай Украіны й на Ноўгарадзкую рэспубліку. Гэтыя пляны перакрыжаваў аднак няўдачны паход літоўскае арміі супраць татарскага хана Тымур-Кутлуга ў 1399 годзе. Пакінуўшы на полі бітвы лепшыя сілы свае арміі, Вітаўт змушаны быў зьмяніць свае дачыненьні да Польшчы, прызнаючы Віленска-Радомскай умовай 1401 году сваю залежнасьць ад польскага караля. Гэта не азначала аднак, што ён адмаўляўся ад імкненьняў поўнага ўнезалежненьня ВКЛ. Вітаўт прызнаваўся вялікім князем і ў далейшым праводзіў незалежную вонкавую палітыку, а пад канец свайго жыцьця быў цьвёрда наважаны прыняць карону караля Літоўскае дзяржавы.

Перададзеную ў 1398 годзе крыжацкаму Ордэну Жмудзь Вітаўт хацеў вярнуць ужо ў 1401 годзе, пачаўшы за яе навет вайну. Паводля ўмовы 1404 году яна й надалей заставалася ў нямецкіх руках. Аднак тут рэч ідзе аб іншым, пайменна аб удзельніках з боку ВКЛ у Грунвальдзкай бітве. Галоўная тэрыторыя цяперашняе Летувы знаходзілася ў той час у нямецкіх руках, і ня пустая тэрыторыя, але з бальшынёй жыхарства гэтае краіны. Такім чынам войска ВКЛ, якое прыймала ўдзел у Грунвальдзкай бітве, складалася пераважна зь Беларусаў і Ўкраінцаў. Змагалася яно таксама не пад летувіскім сьцягам і не за інтарэсы летувіскага народу. Калі-б Вітаўт меў на ўвазе толькі апошняе, у абставінах перамогі над крыжакамі ў Грунвальдзкай бітве ён мог-бы лёгка прынесьці вызваленьне Жмудзі. Аднак ён зь некаторых палітычных меркаваньняў у дачыненьні да Польшчы адмовіўся ад поўнага разгрому крыжацкага Ордэну Прусіі, адкладаючы на ўсялякі выпадак і пытаньне звароту Жмудзі.

Скуль-жа ўзялося цьверджаньне, што Грунвальдзкая бітва была выйграна «благодаря русским полкам»? Ня гледзячы на рэакцыйнасьць царызму, які наагул ня прызнаваў апрычонасьць беларускага народу, зьяўляліся ўсёткі працы ці то беларускіх, ці то расейскіх навукоўцаў, у якіх ня толькі канстатаваўся факт, але й навукова даводзілася беларускасьць Смаленшчыны. Не ў паветры, але на цьвёрдым зямельным груньце адбудоўвалася ў 1917-18 гадах беларуская дзяржава з самым актыўным ўдзелам самых смаленчукоў. Абвяшчаючы 1 студзеня ў 1919 годзе ўтварэньне БССР бальшавікі таксама ня выключылі з гэтае рэспублікі Смален-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Вялікае заданьне

У беларускім народзе ёсьць колькі мільёнаў Беларусаў-каталікоў. Ня будзем гэтта гаварыць пра значэньне іх, як каталікоў, для беларускага народу, як цэласьці, у ягоным культурным і палітычным жыцьці, у тым ліку ў дачыненьнях вонкавых. Зьвернем увагу толькі на сам факт быцьця вялікае колькасьці Беларусаў-каталікоў. Кажны згодзіцца, што з гэтым трэба лічыцца й трэба рабіць усё чыста, каб Беларусы-каталікі жылі й разьвіваліся як часьць беларускага народу. Да такое работы найперш належа досьцьучыненьне элемэнтарным патрэбам нацыянальнага й рэлігійнага жыцьця гэтае часьці нашага народу.

Трэба каб ім касьцёл быў маткаю, а ня мачыхаю й снадзівам іхнага нацыянальнага паняволеньня. Да рэлігійных патрэбаў належа і ўся рэлігійная літаратура. А да патрэбаў нацыянальных — уся сьвецкая літаратура. Скажуць нам, што літаратура сьвецкая тая-ж Беларусам каталіком, што і ўсім іншым Беларусам. Але! Толькі трэба, каб яна была ім прыступная, або, ясьней, каб яе ўмелі чытаць. І вось тут перашкода. Выясьнім яе:

Перад першай сьветнай вайною ў Беларусі наагул школаў — былі яны толькі расейскія — было мала, а ў мясцовасьцях каталіцкіх — яшчэ меней (у мясцовасьцях із вялікай перавагаю праваслаўных, апрача пачатных школаў міністэрскіх, была яшчэ сетка школаў царкоўна-прыходзкіх). Дзеля таго мала хто тады зь Беларусаў-каталікоў вучыўся ў урадовых школах, дзе вучылі — парасейску кірыліцаю, а хто й вучыўся, найчасьцей потым забываўся, асабліва прыехаўшы да Амэрыкі. Звычайна Беларусы-каталікі стараліся вучыць свае дзеці прыватна трохү парасейску, што потым найчасьцей забывалася, і троху папольску, каб маглі маліцца з кніжкі. Уменьне чытаць папольску (ня польская мова, каторай ня ўмелі), а значыцца й пабеларуску лацініцаю, дзякуючы чытаньню малітваў, заставалася, а па прыезьдзе да Амэрыкі й павялічалася. Паміж дзьвюх сьветных войнаў у Беларусі заходняй школаў беларускіх было надта мала, бо іх Палякі не дазвалялі, а ў школах польскіх кірыліцы ня вучылі. Праваслаўныя навучаліся чытаць кірыліцаю вонках школы, бо кірылічнымі літарамі былі друкаваныя іхныя рэлігійныя кніжкі. Каталікі такой патрэбы ня мелі й заставаліся з аднэй лацініцаю.

Дзеля менаванага на эміграцыі зь Беларусаў-каталікоў толькі інтэлігенцыя, выраслая ў Бацькаўшчыне, знае кірыліцу. Зь неінтэлігенцыі знаюць кірыліцу ня болей аднаго працэнту. Ня знаюць кірыліцы звычайна таксама беларуска-каталіцкія інтэлігенты, каторыя радзіліся на эміграцыі.

Прымеж таго ў Беларусі, у тым ліку і ў Беласточчыне, беларускія выданьні выходзяць толькі кірыліцаю. На эміграцыі з надта малымі выняткамі — тое самае.

Можа хтось падумае: няхай няўмеючыя кірыліцы Беларусы-каталікі яе навучацца. Гэта лёгка сказаць, але немагчыма зрабіць. На'т нацыянальна сьвядомаму, працуючаму фізычна неінтэлігентнаму чалавеку цяжка навучыцца другое, у даным прыпадку кірылічнае, абэцэды. А што-ж казаць пра мала сьвядомых, або й найчасьцей зусім нясьвядомых нацыянальна Беларусаў-каталікоў, каторыя да кірыліцы маюць безахвоцьце, бо бачаць у ёй — дарма што няправільна — літары расейскія. Тут — дый усюдых — ня маса мае падыйсьці да працаўнёў і арганізатараў, а гэтыя да масы.

Значыцца, вялікім заданьнем ёсьцека стварыць Беларусам-каталіком рэлігійную й сьвецкую літаратуру лацініцаю. Хто пра гэта павінен парупіцца? Усе Беларусы бяз розьніцы веры, а найперш самі сьвядомыя нацыянальна Беларусы-каталікі зь беларуска-каталіцкай інтэлігенцыяй на чале.

Найперш патрэбны часапіс. Які ён мае быць? Каталіцкі й лацініцаю, адкажуць нам. Ведама. Але гэтага мала. Ці ён мае быць такі як «Бацькаўшчына», «Беларус», «Зьніч», «Божым шляхам»? Не, зусім не! Першае, кажны новы часапіс мае запаўняць якуюсь нястачу, а не паўтараць ужо існуючага; другое, у ўсіх менаваных часапісах пішуць непапулярна, пішуць як для інтэлігенцыі, хоць хіба выдаўцы зычаць мець сваймі чытарамі і неінтэлігенцыю. Як ужо было зацемлена, каталіцка-беларуская інтэлігенцыя, з выняткам часьці тых, што радзіліся на чужыне, знае кірыліцу. Значыцца яна ў бальшыні можа карыстацца менаванымі часапісамі кірылічнымі. Але пякучай патрэбаю ёсьць часапіс папулярны лацініцаю. Праўда, таковы часапіс патрэбны й кірыліцаю, але ўсё-ж такі ня гэтулькі, як лацініцаю, бо чытары кіріліцаю маюць такую-сякую прыступна напісаную літаратуру кірылічнымі літарамі, якой на эміграцыі літарамі лацінічнымі няма.

А калі такі часапіс мае быць папулярны, дык ён мусіць рэдагавацца там, дзе ёсьць каталіцка-беларуская маса, зн. у Амэрыцы. Толькі рэдакцыя што жыве сярод гэтае масы, беспасярэдна знае ейныя патрэбы, ейныя заганы, дзеючыя на яе ўплывы, мучачыя яе праблемы, узумее падысьці да яе. І толькі такая рэдакцыя ўзумее знайсьці карэспандэнтаў і супрацаўнёў наагул, пішучых і няпішучых да часапісу, сярод гэтае масы.

Трэба зацеміць, што пісаць папулярна ня знача пісаць пра рэчы малаважныя. Зусім не! Разглядаць папулярна можна найвышшыя й найглыбейшыя пытаньні. Але, ведама, прыступна пісаць цяжэй, чымся непапулярна, няпрыступна, затое й карысьней, а найважней тое, што ёсьць канечная патрэба папулярнага беларускага часапісу.

**Др. Я. Янучонак**

Поруч зь ёю, пад расою
Зігаціць шыпшына.

Вецер павявае
І расу страсае.
Ой, напэўна і дзяўчына
Лек на сьлёзы мае.

Адгадайце-ж, людзі,
Хто страсаць, іх будзе?
І чаму ён, жаўтадзюбы,
Аж дасюль марудзе?
1912

* * *

Сумна мне, а ў сэрцы смутак запявае:
«Сьцежка ў полі пралягае, траўкай зарастае.
Каля сьцежкі пахіліўся явар да каліны, —
Там кахаліся калісьці хлопец і дзяўчына.
Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай, —
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі горкай:
Бо ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу праймае».

1911

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

* * *

Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо ня тое сьветчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх душу мне агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары . . .
Прыляці-ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

1912

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

### ЯН І МАЦІ

Ты стамілася, змарнела, сьлёз праліла рэчку.
Што-ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, сьвечку:
Мо паможа Яну гэты сьвет і пацер словы . . .
Асьвяціла сьвечка з воску хлопца твар васковы.
Тае воск, і ўніз ціхутка кропелькі сьцякаюць,
А ў вачох збаленых Яна сьлёзы праступаюць.
Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьзяе, сьвечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаце хлопец памірае.
Ой, ня век-жа сьвечцы тонкай зігацець, гарэці, —
Дагарыць яна і зьнікне, як і ўсё на сьвеце . . .

1911

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

* * *

Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю, —
Ой, пайду я зь цеснай хаты ў тое поле.
Ў чыстым полі вецер вее, павявае, —
Ты пакінь мяне, нуда мая нямая!
Я тады-б у песьні звонкай, салаўінай
Выліў тугу і на вецер буйны кінуў,
І разьвеяў-бы яе ён на раздольлі,
Каб ня ўбачыць мне ніколі ўжо нядолі.

1911

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

### ВЕЧАР

Месяц круглы ўстаў на небе,
Блішчыць нявысока,
Ўвесь чырвона-жоўты, быццам
Пугачова вока.

Зь мілым, задушэўным зыкам
Важкі хрушч лятае;
Пра няшчаснае каханьне
Нехта запявае.

Голас полем пракаціўся,
У бары аддаўся:
«А дзе-ж тая крынічанька,
«Што голуб купаўся?»

І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Роднай песьні, простай песьні
Беларускай вёскі . . .

(Далей будзе)

